




У адрас старшыні ГРН у Пасынках

### Чаму «нячыстая» цягне пад мост?

Паважаны Мікола Весялоўскі, ці ехалі Вы калі-небудзь дарогай з Пасынак у Агароднікі? Не? Вядома, вядома, хто ж гэта не даражыць сваім уласным жыццём? Тым больш калі небяспека пагражае яму, так сказаць, з прычыны «нячыстай сілы». Дарэчы, гэтая «сіла» ад нейкага часу загняздзілася пад мостам, што пабудаваны некалькі дзесяткаў гадоў таму назад каля Агароднікаў на рацэ Арлянцы. Загняздзілася «нячыстая» і пужае людзей. Калі едзеш па мосце возам, дык яна пачынае яго так трасці і калаціць, што чалавеку зуб на зуб не трапляе. А калі праходзіш пеша — дык рассоўвае перагніўшыя дошкі і намагаецца ўцягнуць нагу ў дзірку. Асабліва яна не любіць усялякіх механізмаў. Мабыць таму дарожны аддзел паставіў каля моста перасцярагальную дошку, якая забараняе самаходам ездзіць па ім. І так, сядзіць сабе гэтая «нячыстая» пад мостам, падгрызае яго перагніўшыя стаўпы і наводзіць страх на людзей і на старшыню ГРН у Пасынках.

— Ці ж няма ніякай рады, каб яе выгнаць адтуль?

— Ёсць!

— Якая?

— Пабудаваць новы мост.

— Якім чынам?

— Грамадскім!

Калі Вы, паважаны Мікола Весялоўскі, смела перойдзеце цвёрдым сваім гаспадарскім крокам па новапабудаваным мосце на другі бок Арлянкі, жыхары Агароднік сустрэнуць Вас хлебам і соллю.

Жадаем поспеху!

Тэкст і фота — ШУЛЯК.

## ЭПІГРАМЫ

УЛ. КАПНІНСКІ

**МОЛЬ – КАНТРАЛЁР**

На ткацкім камбінаце моль
Вяла над якасцю кантроль.
Можна дадумацца заране,
Якая якасць гэтых тканей!

С. ШВЕЦАЎ

**У СВЕЦЕ ФАНТАСТЫКІ**

Раман пісьменніка-фантаста
Адстаў ад жыцця на год
паўтараста

ЭМІЛЬ КРОТКІЙ

**НЕАШЧАДНАСЦЬ**

Сараканожцы Бог
Даў цэлых сорак ног.
Перарасход агромны,
Гасподзь неэканомны.

Пераклала З. БУСЛОВІЧ

### ХІТРЫ АДКАЗ

Бацька да сына:

— Алёша, пайдзі на пошту, занясі ліст.

— Ай, я не хачу, няхай меншы ідзе.

— Алёша, ты ж старэйшы, слухайся мяне. Цябе ўжо хутка жаніць будзем...

— Калі жаніць, дык мне да дзевак трэба, а не на пошту.

*

— Чаму ты Васіль не жэнішся?

— А як жаніцца, калі я ніколі не быў жанатым?

*

— Ведаеце, што там, дзе стаіць ваш дом, будзем пракладаць чыгунку, — гаворыць інжынер гаспадару.

— Ну і што, вы думаеце, што я буду пастаянна адчыняць дзверы для паяздоў...(?)

Прыслаў:

ЯКУБ САБЯШУК
Рагачы

### ВЫКРУЦІЎСЯ

Двух суседзяў пасварыліся. Адзін з іх падаў другога ў суд. Жонка высылаючы мужа з сынам на справу дае ім кошык яек і навучае:

— Аддайце гэтыя яйкі суддзі, можа як-небудзь выкруціцеся.

Пасля заканчэння справы суд вынес рашэнне і прысудзіў па 50 лоз.

Калі сын прыбег дахаты, маці пытае:

— А што, выкруціліся?

— Я выкруціўся, а бацька яшчэ круціцца

КАРНАЦЭВІЧ СЦЯПАН
Гароднікі

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ

Настаўнік раптоўна спытаў Віцю:

— Калі найлепш зрываць яблыкі?

— Тады, калі сабака прывязаны, — адказаў збянтэжаны Віця.

### З РЫБАЙ

На моспе іншоў чалавек і ўбачыў хлопчыка, які стаяў схіліўшыся ца парэнчу. Хлопчык еў булку і глядзеў у ваду.

— Што ты тут робіш, — спытаў чалавек.

— Ем булку з рыбай...

— А дзе ж гэтая рыба?

— У вадзе. — хітра адказаў хлопчык.

Прыслала

ВАЛЯ ПАЎЛЮЧУК
Рагачы
Сямяціцкі павет



ІЛЮЗІІ. (МАЛ. ФЛАРЫЯНА. РУМЫНІЯ.)

## Інданезійскія прыказкі

Мутная вада цячэ не з чыстага возера.

Алмаз блішчыць нават у яме са смеццем.

Кожнаму чарвяку хочацца стаць драконам.

І высокая гара зваліцца, калі яе кожны дзень падкопваць.

# УРАДЖАЙ

Нічога так не чакаюць людзі, як новага ўраджаю. Неўраджайны год — бяда, таму мы не здзіўляемся, калі некаторыя прыклікаюць вышэйшую сілу, каб дожджык упаў на час, каб градавая хмара ніву абышла, каб сонейка ласкава палоску абагрэла і каб у жніўныя дзянькі вецярок прахладу начосіў. Няма чаго скрываць, у гэтым годзе ў нас шмат непрыемнасцей з-за ўраджаю. З другіх ваяводстваў пальцамі на нас паказваюць:

— Во, паглядзіце, — кажуць, — як беластоцкія куркіны гаспадары збіраюць збожжа. На два цэнтнеры менш з гектара. Ні культуры ў іх, ні ахвоты да працы.

Паміж сабой мы можам сказаць, дасягненні ў нас ёсць. Гарэлкі мы выпіваем больш за ўсіх. Людзі з іншых ваяводстваў шапкамі закрываюцца ад такіх відокаў. Затонкія ў іх кішкі, каб выйграць з намі спаборніцтва ў выпіўцы!

Мы ведаем, што ахвоты да працы ў нас даволі, толькі сельскагаспадарчых машын — малавата. У многіх мясцовасцях косамі стрыгуць ніву. Нават агратэхнікай пагарджаюць. Таму і ўраджай няпоўнакроўны.

Зараз людзі намучыліся. Гарачыня прымушала яшчэ да ўсходу сонца выходзіць на працу. Касі каса, пакуль раса, раса далоў і мы дамоў. Ад спякоты зерне з каласкоў сыпалася, але ўраджай сабралі.

Цяпер ужо многія гаспадары вязуць збожжа на скупачны пункт, апошнія сядзяць па-турэцку на снапах і думаюць:

— На рынак везці — цэны пакуль не падыходзяць. А ў скупачны пункт яны тым больш не спяшаюць — яшчэ не атрымалі павесткі з запатрабаваннем здачы зярна. Зрэшты, як і атрымаюць, дык яшчэ паспеюць надумацца да таго часу, калі прыдуць ад іх даўжок зыскаць.

Вёскі нашы да свята ўраджаю рыхтуюцца. А з чым жа вы, галубчыкі, сустракаць яго будзеце? Уся краіна ўдзельнічае ў гэтай урачыстасці, толькі не ўсе ўдзельнікі будуць з чыстым сумленнем перад дзяржавай.

Няма ў нас інструкцыі, якая б забараняла святкаваць тым, хто не выканаў сваіх абавязкаў, але добра было б такім падрыхтаваць саламяныя венікі, прыбраныя стужкамі з напісам — «Сам гам, а другому не дам». Такіх адразу ўсюды пазнавалі б. І мы іх, добра разгойдаўшы, высока падкідалі б, а самі... разыходзіліся. Няхай бы падалі, тады ведалі б як бывае без калектыўнай помачы.

А што датычыць ураджаю ў перадавых ваяводствах, — дык вось што я вам скажу: Зато пэк таксама бегаў першы, але цяпер ужо іншыя бегаюць.

Наш народ на пад'ём цяжкі, але як расхістаецца, адкіне старыя метады ў працы на гаспадарцы, дык з пад рук народа такі ўраджай пасыплецца, што амбары патрэскаюць.

Дзядзька Лявон.




НА ПАМЯТКУ АБ ПОЎДНІ.
(«КРАКАДЗІЛ», МАЛ. Н. ЛІСАГОРСКАГА).